PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК
БЕЛАРУСАЎ
У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (2173) Год XLIII Беласток 4 студзеня 1998 г. Цана 1 зл.



*Найпрыгажэйшыя елкі — у лесе.* Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

***Чытачам „Нівы”, нашым сябрам і непрымірымым праціўнікам жадаем у 1998 годзе самых шчаслівых дзён, моцнага здароўя, задавальнення з саміх сябе і акружаючага Вас асяроддзя, адабрэння таго што робіце вашымі блізкімі і знаёмымі. Жадаем Вам таксама поспехаў у вырашэнні штодзённых праблем, каб у Новым годзе сустракалі Вы людзей выключна добразычлівых і сумленных і каб сяброўства і каханне спадарожнічалі Вам часцей чым іншыя пачуцці.***

***Рэдакцыя***

## У нумары



## Беларускі каляндар на 1998 год ☞ стар. 6-7

# Мы прачыталі

*Jak pokazują statystyki, olbrzymia większość elektoratu lewicowego to jednocześnie przykładni parafianie. Czy niemożliwe jest więc, by lewica zaczęła czynić starania, by członkami rad parafialnych zostali jej ludzie? Chyba biskupi i proboszczowie nie będą mieli nic przeciw uaktywnieniu się działaczy lewicowych na terenie Kościoła, skoro Kościół posyła swój aktyw do służby publicznej?*

*Polityka, nr 50 (1997 г.)*

Мы — як дэмакраты — таксама выказваемся за роўнасць правоў для людзей СЛД у парафіяльных саветах.

* * *

*Міліцыя не ў стане раскрыць найбольш значныя злачынствы, учыненыя прафесійнымі зладзеямі. Такая праца пад сілу толькі апаратыўнікам і следчым, якіх у міліцыі ўсё менш. Паколькі галоўнымі ворагамі рэжыму Лукашэнкі лічацца інтэлігенты-дэмакраты, то і галоўнай ударнай сілай рэжыму з'яўляюцца вулічныя „байцы" з гумовымі дрынамі. Сапраўдныя злачынцы могуць не хвалявацца — трэба ім толькі ведаць, з кім дамаўляцца.*

*Пагоня, н-р 71 (1997 г.)*

* * *

*Rządząca Białymstokiem prawica znalazła się w stanie zimnej wojny między różnymi grupami tworzącymi koalicję „Jedność". Prezydent Jurgiel i przewodniczący Rady Miejskiej Chojnowski demonstracyjnie nie podają sobie ręki. W rzeczywistości w tle sporu są przyszłoroczne wybory samorządowe. Każdy stara się zająć lepszą pozycję wyjściową.*

*Kurier Poranny, nr 292*

Так, у палітыцы няма ні сентыментаў, ні калегаў, ёсць толькі інтарэсы. І нават свянцоная вада не астудзіць распаленай прагі ўлады.

* * *

*Факты не пераўпарціш: менавіта кіраўніцтва партыі бальшавікоў рукамі чэкістаў дало ўзор фальсіфікацыі спраў, зыходзячы з „рэвалюцыйнай мэтазгоднасці", рэпрэсій над безабароннымі людзьмі, менавіта яно паклала пачатак д'ябальскай эстафеце даўжынёй у некалькі дзесяткаў гадоў. Бальшавікі не патрабавалі пакарання ворагаў, а знішчэння іх, фізічнай ліквідацыі. Пасля апарат дзяржаўнага тэрору пераўтварыўся ў орган бязлітаснай расправы, а кодэкс законаў заступіў „рэвалюцыйны вопыт".*

*Голас Радзімы, н-р 50 (1997 г.)*

* * *

*Хватит ли у коммунистов мужества поглядеть в глаза своему прошлому? Правда, что Сталин был кровожадным тираном. Но Ленин и его главный палач Дзержинский подготовили для этого почву. Ленинский красный террор отчасти можно объяснить войной, голодом, сопротивлением Белого движения. Но первые концлагеря, тысячи жертв депортаций по приказанию Ленина, массовые расстрелы с самого начала шли под знаком классовой борьбы.*

*Конечно, в 1956 г. Хрущёву нужно было обвинить одного только Сталина во всем за 20 миллионов жертв революции. А кого мы сегодня объявим ответственным за итоги коммунистического владычества в Китае (65 миллионов погибших), за Корею (2 млн.), за Камбоджу (2 млн.), за Центральную Европу (миллионы)?*

*Русская мысль, н-р 4199 (Лондон)*

* * *

*Kierowcy ze Słowacji wybierają się do Mińska. W kolejce tirów w Kuźnicy Białostockiej stoją już trzeci dzień. Mróz stężał do prawie 30 stopni. Szczęście, że do Moskwy nie musimy jechać — mówią. — Nie chcemy stamtąd wracać jak Napoleon.*

*Kurier Poranny, nr 293*

Ёсць яшчэ людзі, якія цешацца, што едуць у Мінск.

* * *

*Waszyngtońskie Centrum ds. Studiów Strategicznych i Międzynarodowych opublikowało raport o przestępczości w Rosji. Wyłania się tam obraz Rosji jak nowego Imperium Zła, w którym komunizm ustąpił miejsca niepohamowanej żądzy zysku, przemocy i korupcji. Duma i organy ścigania przeżarte są korupcją, a grupy przestępcze pełnią funkcję władzy państwowej.*

*Członkowie 8 tys. grup kryminalnych kontrolują sektory gospodarki, dające w sumie dwie trzecie dochodu narodowego. Haracze płaci 40 proc. firm prywatnych, 60 proc. państwowych i 50-85 proc. banków. Wynoszą one od 10 do 30 proc. dochodów, w przypadku banków nawet 50 proc. Pieniądze, które powinny iść na podatki, idą na okup. W zeszłym roku w kasie państwa zabrakło 30 mld. dolarów od podatków, czyli 6,8 proc. produktu krajowego brutto. Przedstawicielstwa firm z Zachodu również muszą płacić gangsterom. To jeden z powodów, dla których zachodnie inwestycje w Rosji systematycznie kurczą się. W przeciwieństwie do bezsilnego fiskusa i policji gangsterzy są bezwzględni i skuteczni w ściąganiu należności. Rocznie ginie z rąk wynajętych morderców przeciętnie 500 dłużników, konkurentów mafii, czy chociażby stawiających jej opór. Cena za zabójstwo wynosi od tysiąca do 100 tysięcy dolarów w zależności od rangi ofiary. Sytuacja w Rosji wygląda jak zemsta komunizmu zza grobu.*

*Gazeta—Magazyn, nr 49 (1997 г.)*

# З мінулага тыдня

**Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе** ў 1998 годзе ўзначальваць будзе Польшча, а ўрачыстасць перадачы ёй старшынства адбудзецца 15 студзеня ў Вене. Міністр замежных спраў **Бранiслаў Герэмэк** поспехам апошняга ў мінулым годзе пасяджэння шэфаў знешнепалітычных ведамстваў 54 краін-удзельніц АБСЕ ў Капенгагене палічыў адкрыццё прадстаўніцтва АБСЕ ў Беларусі, назначэнне камісара АБСЕ па справах свабоды слова і ўзгадненне праекта хартыі еўрапейскай бяспекі.

**Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі** не выключыў магчымасці адклікання **Эвы Спыхальскай** з пасады пасла ў Беларусі. Праўдападобна будзе яна адклікана ў пачатку гэтага года. З такім патрабаваннем выступіў міністр замежных спраў Бранiслаў Герэмэк. Прэзідэнт падкрэсліў, што кіраўнік знешнепалітычнага ведамства запрапанаваў новага кандыдата на пасаду пасла ў Менску.

**У Варшаве** 12 снежня па просьбе беларускага боку затрыманы быў кіраўнік фірмы „Пушэ" **Аляксандр Пупейка**, які знаходзіўся ў вышуку за ўчыненне крымінальнага злачынства на тэрыторыі Беларусі. Беларускаму бізнесмену інкрымінуецца атрыманне ў 1994 годзе незаконнага крэдыту ў Аграпрамбанку ў памеры 1 200 тыс. долараў. Пошук апальнага бізнесмена, які перанёс фірму на Украіну, а з сям'ёю пасяліўся ў Нямеччыне, беларуская ўлады арганізавалі па каналах Інтэрпола. У адпаведнасці з польскім заканадаўствам судовае рашэнне па справе чалавека, які можа быць падвергнуты экстрадыцыі, павінна быць прынята на працягу 48 гадзін. 14 снежня варшаўскі суд пастанавіў падвергнуць шэфа „Пушэ" экстрадыцыйнаму арышту тэрмінам на 30 сутак. **Юлія Пупейка** дзеянні беларускіх улад расцэньвае як помсту за тое, што яе муж адмовіўся спансараваць прэзідэнцкую кампанію **Аляксандра Лукашэнкі** і дапамагаў апазіцыйным дзеячам БНФ.

**У агульнапольскім конкурсе на радыёрэпартаж** другое месца было прысуджана журналісткам Беластоцкага радыё **Агнешцы Чаркоўскай** і **Аліцыі Петручук** за рэпартаж „Cały wasz czyli o tym" („Увесь ваш або аб гэтым"), у якім расказваецца аб візіце прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага ў малым мястэчку ва ўсходняй Беласточчыне.

**Ваяводскі лекар Ірэнэуш Касакоўскі** звярнуўся да дырэктараў падначаленых яму ўстаноў аховы здароўя з заклікам прыняць адпаведныя меры па прадухіленні выпадкаў гібелі людзей ад марозу і неадкладна рэагаваць на ўсе сігналы аб магчымых трагедыях. У выніку маразоў у палове снежня загінула ў Польшчы 17 чалавек.

**У Гарадку** адбылася ўрачыстасць здачы ў карыстанне новай механічна-біялагічнай ачышчальні сцёкаў, магутнасцю 400 кубаметраў у суткі. Да ачышчальні падключаны новы адрэзак 6-кіламетровай каналізацыйнай сеткі. Агульны кошт новазбудавання склаў 1,1 млн. зл. Урачыстае адкрыццё ачышчальні здзейсніў беластоцкі віцэ-ваявода **Гжэгаж Рыкоўскі**, а войт **Яўген Семянюк** зачытаў даклад аб актуальных праблемах аховы асяроддзя ў Гарадоцкай гміне.

**У аптовых складах** Беластоцкага ваяводства кантралёры Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі выявілі шмат няякасных тавараў. 19% правераных тавараў страцілі сваю прыгоднасць да спажывання, а былі гэта галоўным чынам польскія кандытарскія вырабы. Кантралёры выявілі таксама няправільнасці пры пастаўцы на рынак імпартных тавараў.



# Весткі з Беларусі

**Працэс над журналістамі**

У Ашмянах, раённым цэнтры Гродзенскай вобласці пачаўся судовы працэс над журналістамі ОРТ Дзмітрыем Завадскім і Паўлам Шараметам. Прадстаўнікі расейскай тэлекампаніі абвінавачваюцца ў незаконным групавым перасячэнні дзяржаўнай мяжы, а Павел Шарамет, акрамя таго, у перавышэнні службовых паўнамоцтваў. Для асвятлення працэсу ў горад прыбылі журналісты вядучых сусветных інфармацыйных агенцтваў, расійскіх тэлекампаній, шэрагу беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Старшыню на працэсе суддзя Віталь Казакевіч. Падсудных абараняюць прафесійныя адвакаты, а таксама грамадскія абаронцы. У сувязі з тым, што абвінаваўчыя дакументы, якія атрымалі падсудныя на тыдзень да працэсу, былі надрукаваны дрэнна (не ўсё можна было прачытаць), суд прыняў рашэнне адкласці разгляд справы, каб падсудныя і іх адвакаты атрымалі якасныя копіі абвінавачання і мелі час з імі азнаёміцца. Чарговы разгляд справы назначаны быў на 23 снежня.

**Беразоўскі ў Менску**

У Менску адбылася сустрэча прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з буйным палітыкам і бізнесменам Расеі Барысам Беразоўскім, уладальнікам тэлеканала ОРТ. Паводле слоў маскоўскага госця, ён прыехаў на Беларусь як прыватная асоба. Яшчэ ў пачатку перамоваў Аляксандр Лукашэнка сказаў, што дыялог з Барысам Беразоўскім беларуская ўлада вялі на працягу некалькіх месяцаў з пачатку развіцця падзей вакол супрацоўнікаў беларускага бюро ОРТ і за гэты час бакі знайшлі агульныя інтарэсы, агульнае вырашэнне праблемы.

**Юбілей кадэбістаў**

20 снежня васьмідзесяцігадовы юбілей адзначала найстарэйшая спецслужба Беларусі — Камітэт дзяржаўнай бяспекі. На думку прэзідэнта Беларусі, органы дзяржбяспекі — гэта неабходны атрыбут дзяржавы і самы важны інструмент улады, а іх ідэя — гэта аб'ектыўная заканамернасць, якую пацвердзіла гісторыя развіцця чалавецтва. Паводле Аляксандра Лукашэнкі, нават дзеці ведаюць, што „існуе спецыяльны орган, які створаны для аховы інтарэсаў дзяржавы і народа". Беларускі прэзідэнт падкрэсліў, што „дзяржава павінна быць юрыдычнай асновай для спецслужбаў".

**Дзве нагоды**

У Менскім гарадскім выканаўчым камітэце адбыўся прыём мэрам горада Уладзімірам Ярмошыным заслужаных людзей сталіцы, герояў сацыялістычнай працы. Прыём быў прысвечаны 75-годдзю стварэння СССР і надыходзячаму Новаму году.

**Кватэры для ветэранаў**

Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт вырашыў накіраваць звыш 3,5 млрд. рублёў на будаўніцтва жылля для інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны ў Магілёве, Бабруйску і Асіповічах. Гэтыя сродкі атрыманы з абласнога небюджэтнага фонду, спецыяльна створанага два гады таму для аказання дапамогі ветэранам. Фарміруецца ён з адлічэнняў 1% з прыбытку, што застаецца ў распараджэнні прадпрыемстваў і арганізацый.

**Ахвяры лютых маразоў**

З-за рэзкага паніжэння тэмпературы паветра ў палове снежня мінулага года пацярпела 97 чалавек, з якіх 60 шпіталізавана. Загінула 13 чалавек і амаль усе яны без пэўнага месца жыхарства і тыя, хто знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Міністэрства аховы здароўя ўнесла ва ўрад прапанову, каб для абяздоленых катэгорый насельніцтва былі арганізаваны выдача цёплага адзення і пункты для абагрэву (з гарачым харчаваннем).

**Гандаль і нарада**

Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч пазнаёміўся з арганізацыяй перадсвяточнага гандлю на Віцебшчыне і ў абласным цэнтры. Высветлілася, што на прылаўках магазінаў вузкі асартымент харчовых тавараў. У прыватнасці няма свініны, шампанскага, віна. Нягледзячы на гэта абласныя ўлады не спяшаліся выпраўляць становішча і меркавалі напоўніць гандлёвую сетку толькі пасля маючай адбыцца нарады. Старшыня Камітэта дзяржкантролю не згадзіўся з такім падыходам да справы.

# Ваеннае тулянне

**Саветы ў 1939-1941 гадах многіх замажнейшых сялян саслалі ў Сібір. Бяднейшыя паверылі агітатарам і паехалі ў сібірскія шахты шукаць лепшага заробку. Нямецкая акупацыя прынесла чарговыя дэпартацыі. Ваенная ліхалецце выгнала з дому ў свет Мечыслава ВАСІЛЕЎСКАГА — сёння 79-гадовага жыхары Вулькі-Выганоўскай, які так вось успамінае сваё ваеннае тулянне па Еўропе:**

— Нарадзіўся я 10 кастрычніка 1918 года ў Баранавічах, падчас вяртання бацькоў з бежанства. Тады былі яшчэ немцы і мяне, немаўля, кайзераўскі салдат выкінуў разам са шмоццем з вагона. Калі маці падняла крык, немец схапіўся за галаву і паўтараў „Mein Got!" (Мой Божа!). Каб выправіць сваю памылку, прынёс ён маці цукру.

Закончыў я пяць класаў; спачатку вучыўся ў школе ў Круглым, а потым у Маскоўцах. У 1938 годзе ставаў я на ваенную камісію, але ў войска мяне не прызвалі. А як у 1939 годзе прыйшлі да нас саветы, то чорт мяне падбіў паехаць на шахты ў Расею. Многія добраахвотнікі тады паехалі. Работа аказалася там вельмі цяжкай і ўвесь час кармілі нас адной капустай. У такой сітуацыі рашыліся мы ўцякаць адтуль.

На таварных вагонах дабраліся мы цераз Маскву ў Менск. Перад станцыямі выскаквалі мы з вагонаў, каб не злавілі нас энкавэдзісты. У Менску нейкі час мы працавалі. Да польскай даваеннай граніцы было 30 кіламетраў і мы намерваліся перасячы яе пешшу. Па дарозе зайшлі мы ў дом на хутары. Усе сцены ў ім былі абвешаны іконамі і мы падумалі, што такі веруючы чалавек нам дапаможа. І так яно было. Сын гаспадара выбраў найбольш бяспечны час і давёў нас да граніцы. Ішлі мы ў дзесяцёх. Неўзабаве з'явіліся расіяне на конях і загналі нас у сельсавет, дзе сустрэлі мы іншых няўдачлівых уцекачоў. Сагналі нас усіх на заставу, а пракурор загадаў неадкладна адправіць нас назад. Але адаслалі нас не на шахты, а толькі на два месяцы здабываць торф. Пасля гэтага тэрміну ніхто не збіраўся нас вызваляць, тады мы пайшлі да пракурора са скаргай. Той стаў крычаць на нас, лаяў як нейкіх п'яніц, але калі мы цвёрда сталі патрабаваць адпусціць нас дадому, патэлефанаваў на міліцыю і сказаў адаслаць „польскіх сволачаў". Неўзабаве вярнуўся я ў Вульку.

У 1941 годзе прыйшлі немцы, якія заставілялі людзей навакольных вёсак працаваць на чыгунцы ў Чаромсе, дзе пашыралі рэйкі. Працавалі мы з сябрамі ўсю зіму, а вясною пасварыліся з шуцманамі — нашымі людзьмі, якія служылі ў нямецкай дапаможнай паліцыі, і нас вывезлі на прымусовыя работы ў Фрыдэберг каля Тыльзіта ва Усходняй Прусіі. Было там многа французскіх палонных, ад якіх навучыўся я гаварыць на іхняй мове. Аднойчы жандар злавіў мяне ў памяшканні, у якім пачуў пах папяроснага дыму і за гэта мяне саслалі ў лагер у Тыльзіце, дзе ганялі разгружаць вагоны. Потым перавялі нас у Францыю, у ваколіцу горада Шэрбур, а затым Бардо, для будавання бункераў. Быў гэта 1944 год. Уцячы ад немцаў дапамаглі мне французы. Скрываўся я ў лаўравых зараснiках, пакуль не знайшлі мяне французы і не завялі ў тартак і схавалі ў яму, пад пілавіне. Сядзеў я так усю ноч, а на другі дзень апранулі мяне ў французскі мундзір, зрабілі здымак і завезлі ў Парыж. У Францыі змагаўся я ў партызанскім атрадзе, узрываў масты...

У 1945 годзе прыехалі польскія афіцэры ў англійскіх мундзірах. Я сказаў, што ў мяне польскае грамадзянства і мяне накіравалі ў польскія казармы. Пасля вайны пайшлі мы цераз Бельгію і Галандыю ў Нямеччыну. Потым нашу часць накіравалі ў Шатландыю. Там лекар мяне абследаваў і заявіў аб маёй няздатнасці да далейшай службы. Атрымаў я дазвол вяртацца дамоў. У Польшчу прыплылі мы на пасажырскім параходзе „Баторы". У родную Вульку вярнуўся я ў красавіку 1946 года.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**



*Шатландыя — 15.03.1945 г.*

# Грэшнае каханне Марысі

— Так закахалася, што вошы напалі, — уздыхае Марыся Карпюк. Яе аповед спыняе малайцаватае кукарэканне пеўня. — Маё каханне было грэшнае, — кажа і спазірае на покуць, дзе вісяць іконы.

Хвіліна напаўняецца трывожным маўчаннем. Гляджу на сівую, маленькую кабету ашарашаная яе тайнай. Воблік бабулі ззяе нейкай натуральнай праўдай і святасцю. Напамінае нават ікону на покуце.

— Я многа малюся, — чытае мае думкі бабуля, — бо без Бога даўно ў Харошчы трымалі б. А мне жыць трэба, Шурыка гадаваць, — зноў уздыхае Марыся Карпюк.

Лёс жорстка абышоўся з сівой бабуляй. На старасць, замест унукаў, выпала няньчыць сынка-алкаголіка.

— Бог за вялікае каханне мяне пакараў. Вы чыталі „Анну Карэніну"? — зноў задзіўляе мяне жанчына.

**Іван за сабой цягне**

Пасля смерці мужа Марыся пачала вокамгненна старэць. У вачах перамянілася з маладзіцы ў бабулю.

— Вы паверыце, што мне сорак дзевяць гадоў? — крыху сароміцца свайго старэчага выгляду кабета.

Як муж памёр, то я месца сабе не знаходзіла. Удзень як апантаная хадзіла. Прыйдзе ноч, душа ад болю гарыць. Толькі і ведала суцяшэнне ля магілы Івана. Быццам ён да сябе клікаў, у магілу цягнуў.

**Няма літасці**

— Мой Шурычак як п'е, то з чэрцямі гаворыць, — паказвае на спячага сына.

Нешчаслівец і сёння запіўся да непрытомнасці. Маю ўвагу прыцягвае жоўты грэбень у кішэні задрыпаных штонікаў. Напляваць Шурыку, што маці перад людзьмі вочы хавае.

— А ён жа з такога кахання на свет прыйшоў. Як нарадзіўся ростачкай, сонейкам, гаспадарыкам называлі. Наследнікам.

У К., прыпушчанскай вёсачцы, жменька распітых сялян. П'юць тут усе — пенсіянеры, жанчыны, старыя кавалеры. Дзеці не п'юць, бо іх проста няма. Няма ў К. каму спагадаць Марысінаму гору. У кожнай хаце свая роспач, сваё няшчасце.

— Людзі толькі і суцяшаюцца як чужую бяду бачаць, — уціpae слёзы сівая бабуля. — Няма сёння ў людзей літасці.

**Брат яго прагнаў**

— У нас, пад Нараўкай, падляшоў не любілі. Казалі *сыр не закуска, ляш — не чалавек*, — узбуджаецца Марыся. — Іван пяць гадоў да мяне хадзіў, парогі збіваў. Роварам ездзіў. І то падумаць як кахаў. Бывала, штовечар наведваў. Не жартачкі, трыццаць кіламетраў на ровары ў адзін бок пераехаць.

Марыся ад першай сустрэчы пакахала Івана. Толькі яго аднаго пяць гадоў выглядала. Ён такі слаўны быў, стройны, майстар на ўсе рукі. А як анекдот, бывала, загне, то ўся кампанія ад смеху траслася. Толькі Марысін брат яго не любіў. Ну і пабіліся да крыві на забаве. Брат меў *права*, ён гаспадар быў, а Марыся — сірата без маці. Так як і Іван-сірата, таксама без маці. Але ганарлівы, пагневаўся на Марысіну сям'ю, перастаў парогі збіваць.

— А я ўжо грубая Шурыкам хадзіла.

**Як маладыя багі**

Над „версалькай" у святліцы шлюбны партрэт Марысі і Івана. Тыповы фотамантаж са здымка.

— У нас не было як у людзей. Пяць гадоў без шлюбу жылі. Як Аня, трэцяе дзіця нарадзілася, то бацюшка павянчаў. Разам хрэсьбіны і вяселле згулялі.

Шлюбны партрэт захапляе класічнай прыгажосцю маладажонаў. Іван ды Марыя прыгожыя і моцныя, як маладыя багі. Нажылі яны сямёра дзяцей.

— Нядаўна мне ўнучачка Кася нарадзілася, — радуецца бабуля. — У шапачцы дзяўчынка прыйшла на свет.

**Разлічвала на цуд**

Многа нацярпелася Марыся як брат Івана прагнаў. Ды зразу пачаў яе сілком замуж аддаваць. Пасватаўся Мішка з суседняй вёскі, хлопец талковы і працавіты. Але любоў не картошка, не выкінеш за акошка, як гавораць расейцы.

— Мне Мішка нялюбы быў. Пра Івана дзень і ноч думала. І Шурык пад сэрцам Марысі ўжо рос. А сказаць брату праўду, лічы прапала, бедная галава.

Да апошняй хвіліны Марыся разлічвала на цуд. Калі вянчалі з Мішкам, плакала і праклінала Бога. Падумала пра самагубства.

**Выкраў з вяселля**

Змяркала. У вёсцы пахла цветам чаромхі. На пляцоўцы, дзе спраўлялі вясельныя танцы, Марыся заўважыла сваяка Івана. Ледзь не самлела тады.

— Пайду за патрэбай, — папрасіла ў шлюбнага Мішкі прабачэння. — А ты будзь анёлам і затанцуй з маёй хроснай.

Марыся пабегла за стадолу. Цягнула яе нейкая сіла на тое месца. Раптам пачула, як хтосьці схапіў яе за руку. У цямрэчы пад бярозай стаяў Іван. Марыся пра нішто ўжо не пытала. Свой шлюбны вэлюм кінула на скрыжаванні дарог.

За вёскай чакалі сябры і сваякі каханага. Марыся скокнула на Іванаў веласіпед і паімчалі ў К.

— У хаце прывітала нас дзіва, — прадаўжае гераіня казачнага здарэння. — У покуці, — паказвае на сваіх святых сівая бабуля, — кружыла белая галубка. Пасля хвіліны птушка прапала ў коміне.

— Цяпер, як мае прыехаць дачка з Касяй, той, што ў шапачцы нарадзілася, — прамянее шчасцем Марыя Карпюк, — белая галубка заўсёды мяне папярэджвае. Прыляціць да мяне пад акно і ківае галоўкай. Гора і шчасце мяне безупынна выпрабоўваюць, — зноў уздыхае сівая бабуля.

Хіба з-за грэшнага кахання?

**Ганна Кандрацюк**

# Навагоднія свавольствы

Беларуская вёска была вельмі багатая ў разнародныя абрады і святкаванні, а маладыя найбольш любілі тыя гульні, бо маглі павесяліцца і пасмяяцца. Шчодры вечар быў тым момантам, калі старэйшыя даравалі маладым свавольствы, а ўспаміны ад іх заставаліся на доўгія гады. У многіх нашых вёсках моладзь і цяпер не забылася пра Гагатуху і сюрпрызы з ёй звязаныя. **Адам Асташэўскі** з Тыневіч-Малых успамінае пра навагоднія свавольствы цяперашняй тыневіцкай моладзі.

— Традыцыяй у нашай вёсцы стала ўжо рабіць у навагоднюю ноч неспадзяванкі гаспадарам, хаваць фортачкі і сыпаць дарожкі паміж халасцякамі і незамужнімі дзяўчатамі. Моладзь сустракаецца ў Шчодры вечар, каб спачатку паразмаўляць і крыху падвесяліцца нечым мацнейшым, а пазней, калі ўжо старэйшыя ідуць спаць, мы пачынаем „працаваць". Было аднаго разу так, што папрышчэплівалі да воза дзве сеялкі і зацягнулі далёка за вёску. Гаспадар пазней шукаў нас, каб мы прывалаклі ўсё тое яму назад. Дарожкі высыпаем з попелу і пілавіння. Калі сыпалі праз цэлую вёску ад старэйшага халасцяка да старэйшай незамужняй дзяўчыны і не хапіла попелу, дык клалі салому. Калі добра замарозіла, доўга трымалася тая дарожка! Форткі застаюцца толькі ў тых, хто іх моцна папрывязвае ланцугамі. Бывае, што бярэм у гаспадара воз, складаем на яго шмат фортачак і вывозім недзе за вёску. На наступны дзень такі гоман робіцца, людзі бегаюць і шукаюць! Адзін мужчына да поўдня праспаў, думаючы, што яшчэ ноч. Памалявалі мы яму чорнай фарбай вокны! Найцікавей было ў мінулым годзе. Сабраліся, як заўсёды. Зрабілі парадак з фортачкамі і дарожкамі, але гэтага нам было мала. У аднаго гаспадара выцягнулі воз, разабралі яго і завалаклі на малачарню, там зноў яго склалі і пакінулі. Начаваў спакойненька. На другі дзень суседзі крыху смяяліся, але не памаглі зняць на зямлю. Чалавек вымушаны быў наймаць пад'ёмны кран, каб той воз сцягнуць. Але ж гэта быў Шчодры вечар, дык не павінен вельмі злавацца. Пасля поўначы сябра падагнаў трактар з прычэпам і ўсе з песняй паехалі на забаву ў Чыжы. Так нават і старэйшыя сябры не святкавалі. Будзе што ўспамінаць!

Такія свавольствы, пэўна, і старэнькімі будзем успамінаць! Але ці на другі раз дазволяць, каб маладыя бяскарна так бушавалі?..

**Аляксей Мароз**

# Які быў 1997 год?

**Наогул някепскі, гавораць нашы суразмоўцы. Для большасці — год цяжкай працы, у якім або канчалі раней пачатыя праекты, або пачыналі нешта новае, што давядзецца працягваць у будучыні. Ніхто з васьмі апытаных асоб не назваў нейкіх спектакулярных дасягненняў, але і ніхто не лічыць мінулага года страчаным.**

**ЯЎГЕН СЕМЯНЮК** — войт Гарадоцкай гміны:

Добры год для гміны. Агульны кошт выкананых намі інвестыцый атрымаўся ў 2 млн. 900 тыс. злотаў. Гэта хаця б ачышчальня сцёкаў і каналізацыя ў Гарадку, водаправод у Пяшчаніках, тэлефоны ў Баброўніках. Думаю, што ў гэтым плане і бягучы не павінен быць горшы. Будзем утрымліваць ранейшыя тэмпы інвестыцый, у першую чаргу працягваць пракладку каналізацыі ў Гарадку і будаваць дарогу з Гарадка ў Вейкі.

**УЛАДЗІМІР ПАЦ** — карэспандэнт Польскага радыё ў Менску:

Мінулы год ацэньваю станоўча. Павысілася зацікаўленне Беларуссю ў свеце, а разам з гэтым і значэнне маёй місіі. Ну і вельмі важная падзея ў асабістым жыцці: шлюб з мянчанкай Таняй у лістападзе, які, можна сказаць, звянчаў мой чарговы год у Беларусі.

**ДАРАФЕЙ ФІЁНІК** — сааўтар і рэалізатар праграмы „Бельск — сэрца памежжа":

Узнагарода для нашай праграмы ў агульнапольскім конкурсе „Малых айчын" на канец 1996 года, а яшчэ больш сустрэчы з удзельнікамі конкурсу, многаму мяне навучылі. З тае пары я інакш гляджу на маё найбліжэйшае акружэнне, захапляе мяне тое, чаго раней не заўважаў. Бачу многа прыгожага: у дойлідстве, песнях, абрадах, звычаях. У пэўным сэнсе да гэтага захаплення можна аднесці напісаную супольна з айцом Рыгорам Сасною кніжку пра Орлю. Паўгода жыў я ёю. Многа мне даюць сустрэчы „Зоркі", дзякуючы якім не толькі пазнаем сваё роднае, але і яшчэ выхоўваем наследнікаў. Якія дасць гэта эфекты, убачым. Маю надзею, што плён прынясе таксама мая краязнаўчая праца з вучнямі бельскай „тройкі" і з Ягуштова.

**ВАСІЛЬ ЛЯШЧЫНСКІ** — дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім:

Людзі, якія працуюць у школьніцтве вымяраюць гады ад верасня да чэрвеня. Папярэдні навучальны год скончыўся для нашай школы вельмі добра: дзесяць нашых вучняў сталі лаўрэатамі прадметных конкурсаў, школа аказалася найлепшай у ваяводстве па лёгкай атлетыцы, да таго шэраг перамог у розных дэкламатарскіх ці песенных аглядах, асабліва на беларускай мове. Але з прыкрасцю мушу сцвердзіць, што мала хто звяртае ўвагу на тое, ці школа добрая, ці слабая, ці настаўнікі поўнасцю прысвячаюць свой час і веды вучням і працуюць з імі яшчэ па-за ўрокамі, ці толькі зводзяць працу да неабходнага мінімуму. І ў гэтым кантэксце новы школьны год не настройвае мяне аптымістычна. Проста, вакол школьніцтва кепская атмасфера, а ўлады штосьці не шукаюць выйсця з гэтага становішча.

**ЯЎГЕН САЧКО** — дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы:

У мінулым годзе ўдалося нам прыцягнуць больш бацькоў да супрацоўніцтва са школаю. Пад канец года заснавалі мы з вучняў, настаўнікаў і бацькоў Раду школы, якая дапаможа вырашаць канкрэтныя праблемы. Спадзяюся, што Рада будзе ствараць у гайнаўскім і не толькі гайнаўскім асяроддзі лобі школы. Ніколі не вядома хто, калі і чым зможа школе дапамагчы, дык такое нашае мацаванне можа даць рэзультаты і праз некалькі гадоў. А школа, мушу прызнаць, мацуецца. Усё вышэйшы ў нас ўзровень навучання, больш нашых абітурыентаў паступае ў вышэйшыя школы. І мінулы год быў добры ў гэтым доўгатэрміновым працэсе.

**МІХАЛ ГОЛУБ** — старшыня Гайнаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства:

Паспяхова прайшла ў нас справаздачна-выбарчая канферэнцыя перад XIII з'ездам. Маімі намеснікамі сталі Яўген Сачко і дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко. Гэтыя асобы, я лічу, даюць заруку на добрую дзейнасць нашага аддзела. Ужо ў студзені будзем ладзіць ёлку дзецям гайнаўскіх пачатковых школ, якія вывучаюць беларускую мову. Таксама супольна з ліцэем, домам культуры і праваслаўнымі прыходамі арганізуем гарадскі агляд калядак, даход з якога пойдзе на Праваслаўны асяродак міласэрнасці, што ствараецца ў будынках старога шпіталя. Пра планаваныя чарговыя нашы мерапрыемствы будзем своечасова інфармаваць.

**УЛАДЗІМІР ПЯТРОЧУК** — намеснік старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы:

Канец года для нас добры, бо ў лістападзе атрымалі 400 тысяч злотаў і якраз іх тут перарабляем. Вылілі мы за іх цэментныя падлогі, праклалі інсталяцыі супраць пажараў і ўзломаў, правялі цэнтральнае ацяпленне, цяпер займаемся сталяркай. А вось са здароўем нашага старшыні Кастуся Майсені — дрэнна. Мы з Янкам Хіліманюком заступаем яго. Праўда, у апошні час наведваецца сюды, але кажа, што наўрад ці зможа далей працаваць. Перспектывы музея не найлепшыя — у бюджэце ваяводы на 1998 год не прадбачваецца ані залатоўкі для нас. Няма таксама ў цэнтральным бюджэце, хаця тут яшчэ могуць быць змены, бо сеймавая Камісія нацыянальных меншасцей выступіла з просьбай аб датацыю на заканчэнне пабудовы. Калі хочаце ведаць маю асабістую думку наконт будучыні музея, дык найлепш, каб узнік прадстаўнічы для ўсіх нашых асяроддзяў і арганізацый Фонд беларускай культуры, якому свае паўнамоцтвы перадаў бы пасля заканчэння пабудовы наш Камітэт.

**ЯЎГЕН ВАПА** — старшыня Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай:

Для мяне быў гэта год моцных уражанняў. Як палітычных, так і сямейных. Прымаў я ўдзел у парламенцкіх выбарах, як вядома, без поспеху. Зараз пасля гэтага нарадзілася мне дачушка. Гэтую другую падзею перажыў я намнога мацней за першую. Дачушка дапамагла забыцца пра выбарчы пройгрыш. Дзякуючы ёй я хутка набіраюся сілы і энергіі на далейшую дзейнасць. Перш-наперш грамадска-культурную, бо палітыкай у беларускім асяроддзі Беласточчыны ёсць каму займацца.

Выслухаў і запісаў
**Мікола ВАЎРАНЮК**



*Мінулы год здамінавалі выбары.*

# Сто гадоў таму было нас...

Толькі што мінула сто гадоў з часу, калі на беларускай зямлі ўпершыню праведзены быў перапіс насельніцтва. Сёння маючы перад сабой яго вынікі можам даволі дакладна акрэсліць уплыў навейшай гісторыі на этнічныя змены ў Беларусі. Царскія ўлады, якія арганізавалі гэту акцыю, зыходзілі з пункту гледжання, што пра нацыянальны характар грамадзян вырашала іх мова, якой яны карысталіся ў прыватным жыцці. Нацыянальная свядомасць сялянства ці гарадскога плебсу тады толькі пачынала фарміравацца, таму моўны крытэрый быў найбольш адпаведны для вызначэння рэальнага стану.

Паводле перапісу 1897 года на беларускай мове гаварыла 76 працэнтаў жыхароў Менскай губерні, 82,4 — Магілёўскай, 52 — Віцебскай, 56 — Віленскай і 44 — Гродзенскай. На згаданай тэрыторыі пры канцы XIX стагоддзя пражывала ўсяго звыш 5 700 тысяч беларусаў. Акрамя іх на тэрыторыі пяці ўспомненых губерній налічвалася звыш 3 мільёнаў рускіх, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў ды іншых нацыянальнасцей. Рускія і яўрэі размяшчаліся па ўсёй Беларусі. Палякі стварылі найбольшую этнічную групу ў Беластоцкім павеце Гродзенскай губерні — 34,2 працэнта. Яўрэі займалі тут другое месца — 28,3 працэнта, а трэцяе беларусы — 26,1 працэнта. Падобны быў паказчык беларусаў у Бельскім павеце. Пераважную большасць насельніцтва складалі беларусы ў Сакольскім павеце — 83,9 працэнта. У Аўгустоўскім павеце Сувальскай губерні на беларускай мове гаварыла 32,5 працэнта насельніцтва.

Асаблівасцю беларусаў у параўнанні з рускімі, палякамі ці яўрэямі быў іх падзел па веравызнанні на каталікаў і праваслаўных. Беларусы-каталікі складалі 18,8 працэнта ўсяго насельніцтва Беларусі. Іх асноўная маса пражывала ў Віленскай, Гродзенскай і Віцебскай губернях. На Віленшчыне беларускамоўныя каталікі складалі нават амаль 59 працэнтаў жыхароў. Па той прычыне, што Праваслаўная царква і Каталіцкі касцёл не ўспрымалі беларусаў як асобную этнічную супольнасць, беларуская мова ў літургічнае жыццё не дапускалася. Каталіцкія ксяндзы даказвалі сваім беларускім вернікам, што яны — палякі, праваслаўныя даказвалі, што яны — рускія. Плён гэтай прапаганды відаць сёння надта выразна хаця б у Сакольскім павеце.

53 працэнты гарадскога насельніцтва Беларусі састаўлялі яўрэі. У цэласці, у параўнанні да агульнай колькасці жыхароў, яўрэі складалі амаль 14 працэнтаў. Сёння, у выніку ідэалагічнага і палітычнага шаленства падчас II сусветнай вайны, яўрэі зніклі з культурнага краявіду Беларусі.

Беларусы складалі таксама большасць жыхароў некаторых паветаў Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў. У Краснінскім павеце Смаленскай губерні састаўлялі, напрыклад, 90 працэнтаў усяго насельніцтва. Гэта лічбы, якія афіцыйна аб'явіла царская адміністрацыя пры канцы XIX стагоддзя. Праўдападобна быў гэта адзіны сумленны перапіс насельніцтва, праведзены на тэрыторыі Беларусі. Польскія перапісы ў Заходняй Беларусі, праведзеныя ў 1921 і 1931 гадах, а таксама ўсе савецкія, пытанне пра нацыянальны склад насельніцтва падпарадкоўвалі сваім палітычным інтарэсам. Сапраўдны стан, напрыклад, у трыццатых ці пяцідзесятых гадах вызначыць амаль немагчыма.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Дзеткам — цацкі

8 снежня 1997 г. беларускія аддзелы Прадшколля н-р 14 у Беластоку ў чарговы раз наведалі госці з Беларусі. Прыехалі яны, каб афіцыйна перадаць нашым дзеткам падарункі з Міністэрства асветы Рэспублікі Беларусь. Сярод гасцей быў дырэктар Беларускага навукова-метадычнага цэнтра гульні і цацкі **Алесь Лозна** ды дзве настаўніцы з менскага садка, з якім наша прадшколле супрацоўнічае ўжо трэці год. Разам з імі прадшколле наведалі генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку **Мікалай Крэчка** і віцэ-консул **Павел Латушка**.

Беластоцкім дзеткам вельмі спадабаліся ўсе прывезеныя цацкі, якімі яны падзяліліся са сваімі сябрамі з польскіх аддзелаў. Настаўніцам з беларускіх аддзелаў напэўна спатрэбяцца прывезеныя ім метадычныя дапаможнікі, якіх у нас звычайна не хапае.

Беларускімі гасцямі апекавалася ды наглядала за іхняй пабыўкай у нас дырэктар беларуска-польскага прадшколля ў Беластоку **Ева Шыманская**.

**Барбара ПЯКАРСКАЯ**

**БЕЛАВЕЖА**

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 456

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

Сакрат Яновіч

# Вартавыя памяці

Пачаўся тысяча дзевяцьсот дзевяноста восьмы год. Як і ў кожны іншы, адбудзецца ў ім шмат важнага і няважнага. Самі мы, натуральна, не ў змозе трапна разлічыць адно ад аднаго. Што здасца вельмі важкім, з гадамі акажацца зусім без значэння. І наадварот. Усяму суддзя Час; не сімпатыі і антыпатыі.

Яшчэ два гады — і прывітаем трэцяе тысячагоддзе ад Хрыста. Другое тысячагоддзе Беларусі.

Урачыстыя думкі, вартыя патэтызму. Хаця б таму, што перажываем злом эпох, духоўнае замяшанне, у перамаганні якога надта дарэчы азірнуцца за сябе або і ў глыбіню вякоў.

Няма радасці наогул, такой беспрычыннай. Кожная канкрэтная. Маёй, напрыклад, тая, што я ўсё жыву, захоўваю працаздольнасць у рэалізацыі сваіх планаў, мараў. Гэта асабістая радасць. Але не адзіная. Існуе ў маёй натуры і радасць не менш цудоўная: шчасце быць беларусам! Мець нечужы дом, бацькаўшчыну. Не жыць сіратою сусвету. Выгнаннікам у нішто. Асімілянтам.

Я літаратар. Не магу не думаць пра літаратуру. Пра беларускую. Яна мая інтымная айчына. Нязгасная зорка Венера.

Дакладна сорак гадоў ужо пульсуе беларускі літаратурны рух у Польшчы (з пяцьдзесят восьмага). У параўнанні з тысячагоддзямі — гэта міг. Але не ў годазлічэнні чалавечага жыцця або пакалення. У саракагоддзе гэтае выраслі літаратурныя пакаленні. Прыглядаюся — так бы мовіць — літаратурным унукам, спрабоўваючы здагадацца, кім яны вырастуць. Зычу ім вялікага лёсу.

У адзін з ціхіх перадднавагодніх вечароў у маіх, забытых Богам і людзьмі, Крынках усеўся я ва ўтульным кутку з пісьмовым сталом чытаць тоўстую кніжку пра беларускую паэзію ў Польшчы. Яе аўтарка, даўно вядомая Тэрэса Занеўская. Загаловак жа выдання запах паніхіднай метафізікай — „Strażnicy pamięci" (Вартавыя памяці). Археалогія?

Занеўскай гэта — пэўна — чарговая прафесарская работа, дадатковы плюс ва універсітэцкай кар'еры. І добра, і так павінна быць. Я, таксама, нарыхтаваўся скласці рэцэнзію на, апублікаваныя ёю, вынікі доследаў. Запісаў: адкуль узяла яна паэта Яўгена Ярашэвіча? Я ведаў толькі Эдварда Ярашэвіча, якому, зрэшты, дапамагаў калісьці ў будаванні беларускай фразы...

Заглыбіўшыся ў чытанне, аднак жа, адхацелася звычнага рэцэнзавання. Шкада, каб такая кніжка банальна мільганула ў шэрагу іншых, пазбаўленая асаблівае ўвагі да свайго капітальнага значэння. Упершыню знайшоўся нехта, вось, хто наважыўся на сінтэзаваны вопіс менавіта ўсяе паэтычнай беларускай творчасці ў Польшчы, як самай пашыранай сярод „белавежцаў" і багатай. (Падзагаловак тома: *Poezja białoruska w Polsce po roku 1956*). З'явы істотна адрознай ад савецкай (беларускай). А гэта ўжо дзве літаратуры ў адной, польска-беларуская і савецка-беларуская. Так застанецца, нягледзячы на ўпадак Савецкага Саюза.

„Вартавых памяці" глытаў, бы сенсацыйны раман! Самому сабе рабілася дзіўна, што ажно столькі забылася мною за тое няцэлае паўстагоддзе. Як аднаму з тых „вартавых". Спадарыня Тэрэса, бы ўнікальна сімпатычны следчы, прыхільна вярнула мне памяць. Дзе трэба — сцісла дакументальна. І кругамі зашумелі ў маёй галаве ўспаміны, згадкі... Аўтарскія сустрэчы ў вёсках, у якіх сённячы маячаць адно пакінутыя на паміранне бабулі ды выюць удзічэлыя сабакі. Ніхто тады не прадчуў канца іх сусвету. Можа ў партыйных вярхах? Якіясьці кіпелі пленумы недавучаных мужыцкіх камуністаў, што клялі беларускі патрыятызм, чакаючы яго скону. Цэнзары бачацца, якія дазвалялі на прыметнік „беларускі" ў двух выпадках: мовы і літаратуры. Іншае ўсё ў нашым тут свеце мелася стацца небеларускім. Так, зло не патрабуе намаганняў, яно — буйная самасейка.

Будучы жывым экспанатам беларускага літаратурнага руху ў Польшчы, успрыняў я кніжку Тэрэсы Занеўскай найперш сентыментальна. Пасля прыйшла рэфлексія, што маладая аўтарка ведае больш за мяне, хоць жыццё я пражыў у самюткім горле нашага лірычнага вулкана. А збоку — выяўляецца — лепей і выразней відаць. Як свату (сваньцы) кавалера, замглёна закаханага ў дзяўчыну.

Тэрэса Занеўская першая грунтоўна, панавуковаму, прааналізавала творчасць выдатнейшых паэтаў „Белавежы". Фрагментарныя задаткі дзеля таго, праўда, з'явіліся былі ў друку раней (Гніламёдаў, Шаўлякова, Сямёнава). Нават у мінскім, як відаць, асяроддзі крытыкаў ды гісторыкаў літаратуры. Хоць надалей пануе ў іх стэрэатып „Белавежы" накшталт перыферыйнага згуртавання аўтараў на фальклорным узроўні, тыпу падгродзенскіх вершаплётаў з павятовай газеткі. Такое ігнаранцтва — несумненная ганьба тамачнага Парнаса. Вельмі магчыма, што мае жалі навыраст. Што, проста, няма на каго спадзявацца там, у тым савецкім тумане? Яны ж пакуль у пачатках дваццатага стагоддзя з нашаніўскай парою і паэтыкай „Маладняка", калі, тым часам, неўзабаве вітацьме вось дваццаць першае. Запозненасць, якая чыніць ім незразумелым дзівацтвам сучасны літаратурны працэс наогул. Каб хаця нешта ўцямілі яны з расійскай літаратуры, перад якою стаяць жа на каленях, ні трохі не спасцігнуўшы, прынамсі, наватарскіх некалі Хлебнікава, Булгакава, Фэта ці Маякоўскага, што рэвалюцыянізавалі паэтычную фразу. Пушкін, вядома, вялікі, як і Міцкевіч, але паводле іх паэтычных радкоў пісаць сённячы ў стане кожны адукаваны графаман. Усё роўна што ісці пяройдзенай, утоптанай сцяжынаю.

Гэта мой пошук адказу на пытанне, чаму пальма першынства ў адкрыванні „Белавежы" літаратурнаму свету належыць якраз палякам. А так хацелася, каб збылося тое ў нацыянальным доме. Не ў суседнім, нягледзячы на гасцінна расчыненыя туды нам у ім дзверы... Тэрэса Занеўская, полька, павінна была тактоўна пачакаць? — не больш як саркастычны жарт.

Вацлаў Жыдліцкі, чэшскі літаратуразнавец, канстатаваў быў: беларуская літаратура дасягнула еўрапейскі кантэкст на зломе пяцідзесятых і шасцідзесятых гадоў. Тады „Белавежа" мела за сабою ўсяго худзенькі, інфантыльны, альманах „Рунь" і па-студэнцку з'язджалася на самаадукацыйныя семінары, зайздруючы нема Алесю Барскаму дэбютнага зборнічка „Белавежскія матывы" ды памалу нарыхтоўваючы тоўсты том „Белавежа 1". Нехта з тадышніх бязвусых „белавежцаў", можа быць, і сніў пра славу вышэй беластоцкай „Нівы", але публічна прызнацца ў тым нікому з іх не хапіла б шаленства (пад страхам быць рагатліва абсмяяным). Думаю, сябелюбства не выходзіла ў нас за рамкі „гміннага генія". Памятаю, амаль інфарктную, эйфарыю праз дзесяцігоддзе потым, калі ў маргінальных польскіх часопісах з'явіліся, бы цуд, польскамоўныя пераклады якойсьці нашай драбязы пад палітычныя гадавіны.

Цяпер жа няма такога „вартавога памяці", у якога не знойдзецца хаця б адна аўтарская кніжка; пераважна некалькі, а ў некаторых і пад два дзесяткі. Лічба ўсіх выданняў складае ўжо неблагую бібліятэчку на хатні рэгал. Замест спарадычнай калісьці кніжкі на працягу пару гадоў, вось выходзяць з друку часамі штомесяц. Маладым „белавежцам" гэта нармальна, але не для мяне, памятаючага сярмяжную даўніну. Я ашаломлены такою наважытнаю ўрадлівасцю! І з мае радасці не адзін цяперашні дэбютант пасмейваецца за вочы, бы пакаленне на маторах з бацькоў на вазах... Іншы раз бярэ ў маіх пачуццях верх старэчая злосць: даю сам сабе слова заядла доўга пажыць, так доўга, каб прычакаць пасмешак літаратурных унукаў над палыселымі сынамі і дочкамі нам у пісьменніцтве...

Разам з „Белавежаю" — саракавы год рэгулярна друкуецца Літаратурная старонка ў „Ніве". Некалі ўяўляла яна сабою манапольную магчымасць, безальтэрнатыўную адэптам мастацкага слова канфрантавацца з чытачом, аб'ектывізавацца ў публікатарскім выглядзе. Штомесячнае яе з'яўленне нязменна выклікала настрой падзеі. Румянасць задаволенасці ў тых, чые творы вось пабачылі белы дзень, і збялеласць твару ў абмінутых увагаю рэдакцыйнай калегіі. Былі эмоцыі, якія цяпер ні апісаць, ані перадаць словамі. Так было, але так не ёсць і ўжо не будзе. Час змяніўся, варункі. Прыход наступнай хвалі „белавежцаў" характарызаваўся фантастычным пашырэннем даступнасці да выдавецкай справы, бесцэнзурнай і па-камп'ютэрнаму лёгкай у рэалізацыі. Я даўно заўважыў, спачатку мала зразумелую мне, абыякавасць творцаў менавіта да Літаратурнай старонкі, за ўдзел у рэдагаванні якой пры маёй памяці даходзіла ажно да барацьбы. І надышоў момант, калі прапалі ахвотнікі ўзяць у свае рукі гэту пісьменніцкую трыбуну ў банальна-народным тыднёвіку. Што было рабіць? — прыняўся я самотна адзін. Болей дзеля гонару за традыцыю. Каб дацягнуць нападедак існаванне Старонкі да акруглага саракагоддзя самое „Белавежы", пасля якога застанецца пампатычна выпусціць яе апошні нумар. У чэрвені, у зялёную вясну.



*Мал. Міколы ДАВІДЗЮКА*

Сорак гадоў усё ж прыгожы век літаратурнаму органу.

Мой настальгічны роздум перапыняе здзіўленне, што тыя мінулыя чатыры дзесяцігоддзі не прымушаюць неяк катэгарычна задумацца над тым, чаму не наспела ўсеагульная патрэба выпускаць самастойны беларускі літаратурны перыёдык у Польшчы. Прынамсі ў якасці штогодняга альманаху (з пачарговай нумарацыяй). Здзіўляе і трывожыць адначасна. У некаторай ступені тлумачыць гэта той факт, што ніколі — так, так — не было значных запасаў добрых тэкстаў на тую ж Старонку. Але будзьма да канца аб'ектыўнымі: трапіць на яе маглі толькі кароткія формы, якраз на паверхню менавіта аднае старонкі ў „Ніве". За рэдактуры Валкавыцкага дапускаўся перанос заканчэння, напрыклад, апавядання ў сярэдзіну часопіса; сёння гэта выключана. Шанцы аўтараў навелаў, аповесцяў, драмаў час-часом адкрываліся ў „Беларускіх календарах" і, зрэдку, у выглядзе асобнае кніжкі або спарадычных альманахаў. У нармальна развітых структурах літаратурнага жыцця ролю пэршадруку выконваюць „тоўстыя часопісы". І такі нам даўно прыдаўся б. Вядома, справа ўпіраецца ў фінансы... Гэты бар'ер настолькі лёгка ўжо пераадолець, што адпадае неабходнасць таптацца з паклонамі на парогах уладных кабінетаў; дастаткова дабіцца аднае-адзінюткай вырашальнай дробязі, менавіта вышукаць спонсара. Будуць грошы — будзе друк. Не будзе — дык не будзе і таго, натуральна. Іншых перашкодаў няма. Мерытарычных.

Універсальная гісторыя культуры паказвае, што не бывае яна вялікай у бедных.

Мацнейшую паніку наводзіць на мяне ўсё болей настойлівае прадчуванне непатрэбнасці і самое „Белавежы". Гэта агульны крызіс літаратурных арганізацый усюды, які крануў сваім чорным крылом і наша асяроддзе. Ва ўмовах колішняга таталітарызму ўяўлялі яны сабою фільтр, у якім адцэджвалі графаманію, каб лішне не абцяжвала дзяржаўныя выдавецтвы, манапалістаў на кніжным рынку. З прыходам рынкавай эканомікі лік эдытараў пайшоў у тысячы, а ніхто з іх не філантроп і не ідэаліст, і абы-пісака пры грашах выдае ў іх фірмах усё, што ў галаву яму ўзбрыдзе (у выпадку мінімальнай распрадажы накладу, дамоўлены заробак фірмачу выплачвае ён з уласнае кішэні). Аніякая „Белавежа" не супыніць такога энтузіяста самога сябе. Таму яе значэнне дыяметральна змяняецца ў бок элітнасці, абмежавання да маральнай гарантыі небанальнасці рэкамендаванай мастацкай каштоўнасці. Стаўшы некалькімі гадамі назад самастойнай творчай структурай з юрыдычна пацверджаным статутам ды бюджэтам, нагадвае яна сабою хутчэй прафесійны саюз у абарону аўтарскіх інтарэсаў сваіх членаў. На хвалёным Захадзе адбылося тое даўным-даўно; у нас падобнае пераўтварэнне наглядаецца толькі ў апошні час. Іначай не магло быць. Звычайна.

„Белавежа" страціла прывілей кампетэнтнасці. Устаноўлены папярэднімі ўладамі дзяржавы, у якой і аддрукаванне візітнай карткі было нерэальнае без адпаведнае пячаці...

Я спакойна гляджу на непрыхільнасць творчай моладзі да старэючых „белавежцаў". Гэта неабходны — хоць і наіўны — бунт дзяцей супраць бацькоў. Без чаго няма развіцця, хады дапераду, драпежнага выходжвання новых сцежак. Літаратура, як і наогул мастацтва, зусім не сфера палітыкі, у якой не існуюць незаменныя лідэры. Тут існуюць (на жаль ці не?). Калі ласка, хлопча, будзь лепшы за мяне. Не ў галасістых словах, а ў тэкстах.

Палітычную арганізацыю развальваюць канкурэнты ёй, дыверсанты па ідэалогіі, або сама ссыхаецца яна як нешта грамадска лішняе. Назаву дзеля прыкладу Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, якое малацікавае грамадству, што набралася ўедлівай амбіцыі самапаланізавацца. Гэткай волі не забароніш людзям. Іх суверэннае права быць тым, кім хочуць.

Цалкам інакш маюцца справы літаратурныя. Вырашае іх не грамадства, але адзінка, асоба. Талент, а ён не падлягае дэкрэтацыі. Ён — або ёсць або яго няма. Больш таго — разгортваецца нават насуперак грамадскаму запатрабаванню. Бо, літаратура — гэта апазіцыя індывіда да акаляючага яго свету. Пісьменніка шэры люд не любіць, як кагосьці вечна незадаволенага або яшчэ і павучаючага. Каб такога бурклíўца шанаваць, трэба інтэлігентнасці. З ім цяжка жыць.

Даўгавечча „Белавежы" ў тым, што яна можа існаваць па-за грамадствам. Як пісьменнік па-за чытачом як масавым кансументам прадуктаў мастацкай творчасці. Да вынаходніцтва друкарскага шрыфту ў XV ст. аўтарская папулярнасць канчалася на крузе блізкіх сяброў, якія часамі сёе-тое перапісвалі для сябе...

# Парнасік

## Вітаем Новы год

Новы год вітаем
І народжанага ў яслях Хрыста праслаўляем.
Вялікі Бог даў нам Каляды і Год новы,
Каб мы не цураліся беларускае роднае размовы,
Любілі свой родны маляўнічы куток
І маглі сысціся ў адзін верны гурток.
Каб не сварыліся,
Жылі ў спакоі, і ў сэрцы мірыліся.
Няхай Новы год нас аб'яднае
І нашы веды пашырае:
Што мы не ад мачахі радзіліся,
Але ад роднай беларускай маці на свет паявіліся.
Беласточчына — наша радзіма,
І гэта факт і не дзіва;
Нашы продкі працавалі, змагаліся
І сваёй дабрынёю і кемлівасцю праслаўляліся.
Мы — слаўны род!
Няхай і праславіцца 1998 год!
І каб мы да гэтага прыкладалі сваю самаахвярнасць,
Бог нам за гэта пашле шчасце і радасць.
Беларус! Будзь заўсёды вясёлы,
Тады будзеш духова здаровы.
Няхай жалоба далёка ад нас праходзіць,
А радасць-вера ў сэрца заходзіць.
Родныя песні мы будзем спяваць
І „Ніву", „Часопіс" прагна і пільна чытаць;
Жыць у родным віры,
Цудоўным, развažлівым міры,
Памагаць сваім і чужым у бядзе —
Хрыстос нас за гэта ў свой Храм завядзе.
Глыбока верыць, што мы не памрэм, а зменімся
І сваёю доляй роўна падзелімся.

**Мікалай Панфілюк**

## За Агароднікамі булавее

*Успамін з 60-х гадоў*

За Агароднікамі булавее.
Па паплавах брадзяжыцца туман.
Скажы мне, хлопец, чаму сэрца млее,
Калі рукою абнімаеш стан?
І асабліва сэрца мне кранае
Тое, што так цалуеш раз-пораз,
Бо раз-пораз пытаеш, ці кахаю.
Сэрца біццём чакаеш жа адказ.
Не прытвараецца яно напэўна:
Пад рэбрамі так часта моцна б'е.
Ты — каралевіч, а я — каралеўна.
Цяпер нам прыналежыць цэлы свет.
Хто навучыў цябе кахаць так шчыра?
Дзе універсітэт закончыў ты такі?
Давай, мо паляцім недзе ў вырай —
Такое не бывае на зямлі.
Шчасце сваё схаваць бы нам у хмарах,
Святым блакітам шчыльна бы абвіць.
А свет? Ёй сам нас знойдзе — не разява,
Тады „нацешымся" і я, і ты.
Шчасце сваё схаваю недзе ў хмарах,
Святым блакітам шчыльна абаўю,
Буду глядзець у вочы закахана,
Там падару табе любоў сваю.

**Цётка Мальвіна**

## Так было

Так калісь бывала,
Як сказала маці:
„Ты, сынок, жаніся,
Мусіш Ганну браці.
Бо ў тае Ганны
Ёсць многа пасагу,
Дзесяціна поля
І грамафон ззаду".
Тут бацька пацвердзіў,
Вяселле зрабілі,
Маладога хлопца
З Ганнай ажанілі.
Хоць Ганна старэйша
На гадоў дзесятак,
Хлопец быў дурнаваты
Ды Ганначку пасватаў.
А цяперка гляньце
Як яны пражываюць,
Кожны дзень сварацца
Без канца і краю.
Сынок бацьку кажа:
„Чаму табе верыў,
Нашто тая Ганна,
Каб цябе халера!
А з таею Ганнай
Ні да людзей, ні Бога,
Толькі у маёй хаце
Кожны дзень трывога.
Праз тую трывогу
Не магу я жыці
Мушу развод браці
Другую палюбіці".

**Мікалай Лук'янюк**

# Забытая магіла

Ужо мінула больш за 50 гадоў, як Чырвоная Армія вызваліла вёску Бялкі Нарваўскай гміны. Было гэта 23 ліпеня 1944 года, акурат на святога Антонія. Тады жыхары вёскі вырашылі святкаваць гэты дзень. Старэйшыя адышлі ўжо ад нас, а маладыя забылі пра здарэнне 50-гадовай даўнасці і толькі некаторыя пенсіянеры святкуюць гэты дзень.

Перад вызваленнем у нашай вёсцы пахавалі двух нямецкіх салдат, каля крыжа. Дзядулю Валодзю Сяськевіча прымусілі выкапаць магілу. Труны салдат ляжалі на яловым галлі на панадворку Міхала Сахарчука, побач сядзібы Івана Сцепанюка, бацькі маёй жонкі, якой тады было 11 гадоў. Яна цераз невялікае акенца ў каморы прыглядалася пахаванню. Нябожчыкам зрабілі акуратную магілу, паставілі бярозавы крыж і павесілі жалезную салдацкую каску. Цяпер магіла зраўнялася з зямлёй. Ужо мінула больш як год часу, калі прыйшло ў нашу гміну пісьмо ад сына, які шукае загінуўшага каля Нарвы бацьку. Высветлілася, што гэта магіла знаходзіцца недалёка Ломжы, над ракою Нарвай. Нямецкія войскі вялі дэталёвую дакументацыю сваіх загінуўшых салдат. Можа яшчэ жывуць у Нямеччыне сваякі тых салдат, якія пакояцца ў нас. Над імі ніколі святар не маліўся і не свяціў магілу. Варта, каб аб гэтым даведаліся патомкі спачылых.

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сваякі мае спраўлялі гадавіну пасля смерці іх маці. А мне прыснілася ноччу перад тым днём вось што. Быццам я зайшла да іх у хату, у вялікі пакой. Там яны пасля памінальнай службы ў царкве абед гасцям падрыхтавалі. Але калі я ўвайшла ў хату — абед ужо скончыўся. Госці пайшлі. Са сталоў (якіх я выразна не бачыла) было прыбрана. У пакоі былі толькі дзве дачкі нябожчыцы (у яе яшчэ два сыны). І адна з іх, не ведаю якая, кажа мне, што там на талерцы шынка ёсць, каб я з'ела. Але мне есці не хацелася і талеркі з шынкай не бачыла. Так сон скончыўся.

А майму мужу прысніўся такі сон. Быццам ляціць самалёт з захаду. Закружыўся над кварталам, дзе мы жывём, і прызямліўся спакойна побач нашага блока, дзе гулялі нашы ўнукі. **Анна**

Анна! Наконт твайго сну магу сказаць толькі тое, што, здаецца, кепскае абыдзе цябе бокам. Гасцей мець і бачыць у сваім доме — зайздрасць, злосць і нянавісць. Але ж тыя госці, пра якіх ты пішаш, былі, па-першае, не тваімі гасцьмі, бо ў чужым доме, а, па-другое, і яны ўжо пайшлі, калі ты паявілася ў гэтым доме. Ты іх нават не бачыла. Дык, думаю, тыя зайздроснікі нічога табе не зробяць. Мо добра, што і шынкі тае не толькі ты не ела, але і не бачыла. Калі б была яна сырая, то магла б цябе напаткаць нейкая хвароба ці прынамсі крыўда.

Што датычыцца сну твайго мужа, дык ён можа прадвяшчаць нейкія весткі з захаду. Будуць яны, бадай, спакойныя і памяркоўныя, так як спакойна прызямліўся той самалёт. Можа будуць гэтыя весткі датычыцца вашых унукаў.

**Астрон**

# Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ■ | 2 | ■ | 3 | ■ | 4 | | 5 | | 6 | |
| 7 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 8 | | | | | |
| 9 | | | | | | | ■ | | ■ | | ■ |
| | ■ | | ■ | | ■ | 10 | 11 | | 12 | | 13 |
| 14 | 15 | | 16 | | 17 | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 18 | | | | | | |
| 19 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |
| ■ | | ■ | | ■ | 20 | | | | | | |
| 21 | | | | | | ■ | | ■ | | ■ | |

**Гарызантальна:** 4. порт і выспа ў Малайзіі, 7. жыхары Сфакса (мн. лік), 8. вялікая афрыканская пустыня, 9. Віталь (бацька, 1901—88) або Артур (сын, нар. у 1924 г.), беларускі пісьменнік, 10. парабак, 14. горад на паўночным усходзе Ютландыі, 18. Уладзімір, савецкі фізік, распрацаваў тэорыю акселерацыі зараджаных атамных часціц (1907—66), 19. танец або расліна, якія маглі б стаць і гімнам, і гербам Беларусі, 20. маленькая мяккая круглая шапачка без акалышка, 21. мангольскі чыноўнік, які займаўся зборам даніны.

**Вертыкальна:** 1. Алесь, беларускі паэт народжаны ў 1929 годзе, 2. арганічнае злучэнне, якое выкарыстоўваецца пры вырабе лякарстваў, фарбавальнікаў, выбуховых рэчываў, 3. судовы чыноўнік, 4. Аляксей, беларускі паэт (1920—81), 5. Рыгор, беларускі паэт (1914—91), 6. Паава, фінскі стаер (1897—1973), 11. вяжучае абвостранае адчуванне ў роце ад кіслага, 12. Іаан, візантыйскі храніст (491—578), 13. прыстасаванне для спавольвання руху машыны, 15. буйная драпежная марская рыба, 16. пасёлак між Мозырам і Оўручам, 17. Казімір, беларускі асветнік, які ў 1916—19 гг. служыў у касцёле ў Карыціне, (1890—1926). **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 46 нумара**

**Гарызантальна:** Швед, Барту, жвачка, Кліо, Гасэк, нудота, Мурчысан, касяк, Радаміст, самазвал, уступ, фламінга, Уайльд, уклад, квіт, азярко, ствол, Ліда.

**Вертыкальна:** Машара, стрэмя, вільчура, Джонс, Гайдн, Акіта, Кукузель, Уагадугу, куст, Сумы, Ліст, стэп, Алківіад, Саката, уваход, Ганза, флірт, адкол.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Шашкі

Ваяводскае згуртаванне Народных спартыўных каманд (ZW LZS) у Беластоку і Гмінны асяродак культуры (GOK) у Дубічах-Царкоўных сарганізавалі індывідуальныя спаборніцтвы зборнай Беластоцкага ваяводства па шашках на 100-клетачнай дошцы. Турнір прайшоў 7 снежня 1997 года ў святліцы ГОКа ў Дубічах-Царкоўных. У спаборніцтвах замагаліся 14 шашыстаў, у тым ліку чатыры дзяўчыны і адзін юніёр — Марк Тамчук з Карыцiск.

Спаборніцтвы праводзіліся паводле швейцарскай сістэмы. Сярод мужчын перамаглі Юзэф Талвінскі, Раман Ліцкевіч і Януш Пашкоўскі з беластоцкай каманды ЛЗС. Пераможцамі з ліку дзяўчат аказаліся Дарота Тамчук і Юстына Тамчук з Карыціск ды Крыстына Харытанюк са Старога Корніна. За выкананнем правіл гульні сачыў суддзя Лявон Мікуліч — чэмпіён Польшчы па стаклетачных шашках 1988 і 1989 гадоў. Цяпер ён працуе інструктарам па справах спорту ў Гмінным асяродку культуры ў Дубічах-Царкоўных. Лявон Мікуліч уручыў таксама прызы самым лепшым шашыстам.

**Славамір Кулік**

16 снежня 1997 года ў Мінску памёр раптоўна Дырэктар Прадстаўніцтва Польскай дзяржаўнай чыгункі ў Рэспубліцы Беларусь

**с + п**

**КУЗЬМА ДЗМІТРУК**

Адышоў ад нас у поўнай сіле сардэчны сябар, чалавек вялікага сэрца, цалкам адданы сваёй працы дзеля дабра Польшчы і Беларусі.

Такім застанецца ў нашай памяці.

**Сябры,**
**працаўнікі**
**Пасольства РП у Мінску**

Ніва

„**Niwa**", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраповіч.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Работа Астрона

Сон пра ваду
Ці не на бяду?
Хоць вада чыстая,
Ды непразрыстая...
Каб сны тыя сніліся,
Ў сябе мы нахілімся,
Нашу свядомасць
Акунем у падсвядомасць.
А калі ўстанем
Больш-менш на ранні,
Будзем запісваць,
Каб Астрону выслаць:
Каб распрарочыў
Тайны нашых ночаў,
Каб мы ўсё ведалі,
А яму грош далі.
Калі будзе сніцца,
Будзе за што піцца.

Вандал Арлянскі



*— Мама! А яны ўсе аўтаматары?*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У рэстаране сядзяць два сябры:

— Калі вяртаюся дадому, — кажа першы, — мая жонка заўсёды паглядае на гадзіннік.

— А калі я вяртаюся, дык мая глядзіць на каляндар, — кажа другі.

* * *

— Ведаеш, дружа, жыццё пачынаецца толькі пасля пяцідзесяці, — кажа першы.

— Дык у цябе слабая галава, — адказвае другі. — У мяне жыццё пачынаецца толькі пасля паўлітроўкі.

* * *

У рэстаране афіцыянт звяртае наведвальніку ўвагу, што рыбу прыстойна есці нажом.

— Дык чаму ж вы не прынеслі мне лыжку! — абураецца спажывец.

* * *

Афіцыянт, працаўнік рэстарана, цяжка захварэў. Завезлі яго ў бальніцу і адразу палажылі на хірургічны стол. Прыходзіць лекар; афіцыянт звяртаецца да яго:

— Пан доктар! Вельмі дрэнна адчуваю сябе... Паратуеце мяне?

— Вельмі мне прыкра, — адказвае лекар, — але гэта не мой стол; пачакайце, зараз прыйдзе калега.

* * *

У гасцініцы ўспыхнуў вялікі пажар. Усе бегаюць па калідоры і крычаць: вады! вады! Ад аднаго нумара адкрываюцца дзверы, высоўваецца з іх раскудлачаная галава і раздаецца хрыплы голас:

— А мне вялікае піва!

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Ну і што здарылася падчас вашай пасляшлюбнай ночы?

— Абсалютна нічога: мой муж не мог справіцца з маланкаю ад мае спаднічкі.

* * *

Васьмідзесяцігадовы мільянер ажаніўся з васемнаццацігадоваю дзяўчынай. Падчас пасляшлюбнай ночы пытае яе:

— Ці табе мама гаварыла, што робіцца з мужчынаю ў ложку?

— Не.

— Ой, нядобра, бо я ўжо пра ўсё забыў.

## Тост на Новы год

— Ну то чэсць, Міхась!

— Чэсць, Сцёпа!

— Ты ў літаратуры добра разумеешся?

— Што ў канкрэтнасці ты маеш на ўвазе? Дай агурца.

— Ці можна ў нас пасмяяцца?

— Вядома, можна, але вельмі небяспечна, калі рабіць гэта публічна.

— Дык аматару анекдота застаецца жартаваць у прыватнай і добра праверанай кампаніі або самотна хіхікаць у кулак? Мне толькі палавінку, досыць.

— Ну, не зусім. Трэба зважаць, каб таго-сяго не закрануць у жартачках. Сала якоесьці мала салёнае. Людзі сёння амбітныя і нервовыя. А наогул, то значна лепш у нас наракаць.

— Я ў гэтым годзе зусім не адпімантаваў сваёй нормы.

— Панаракаць заўжды паспееш.

— Ты што маеш на думцы?

— Панаракаць на тое, што наракаюць у нас на Лукашэнку і прыемна, і бяспечна, і карысна.

— Думаеш, што і я мог бы пафарсіць трафейным гадзіннікам?

— Ты — напэўна не. Бо ў дачыненні, брат, да наракання на наракання на Лукашэнку патрэбна аб'ектыўнасць і прафесіянальны падыход. Разумееш? Чэсць.

— Я запішуся ў Таварыства, буду аплачваць членскія складчыны і на наступным з'ездзе пастаўлю на галасаванне прапанову выхаду Таварыства з НАТО. Хай голас мой будзе пачуты ўсім дэмакратычным светам. Х-у-у-у! Гарыць.

— Маеш цыгарэты?

— Закурым пасля трэцяга. Ты што думаеш пра моладзь? Дай, палю.

— Думаю, што моладзь з падставоўкі лепей навучылася па-беларуску за ліцэістаў. Адсунь трохі слоік і глянь! Яны ў кожнай „Зорцы", а ліцэйная моладзь... як кажуць, наша надзея.

— Гэта і ёсць шматгадовае змаганне за беларускую справу і слова. За яго я прапаную.

— За змаганне і ахвярнасць дзеля беларускай справы! Закурым?

— А акрамя наркотыкаў ты нічога не маеш?

— Бяры пралетарскую, распанелі як у тым Беластоку.

— Бо ў нас сёння — гэта ўжо лепшае заўтра. Або наадварот, зблытаў.

— Вядома, змены праз павышэнне. Нічыя галава не паляцела. Гэта і называецца: цуд у „Ніве".

— Ты што маеш да „Нівы"?

— „Ніва" Латышонка ізноў не ажаніла, а Пац — вось, клас! Беларусь гібее, а той, як паніска, гуляе!

— Бо гуляшчы мы народ. Любім спеў і танцы. Вып'еш, ці не?

— Здароўе панства млодых, як у нас спяваюць!

— ...

— ...

— А Валя і Тамара ўвесь год за мову змагаліся. Супраць асіміляцыі! Чэсць!

— А Вапа маральна перамог на выбарах і зрабіў нам тэлебачанне! Чэсць!

— А за Сычэўскага галасавала адзінаццаць тысяч членаў Таварыства! Чэсць!

— А Лукашэнка любіць беларускую мову, толькі ворагі яму не дазваляюць гаварыць. Чэсць!

— А Квасьнеўскі не хоча ў НАТО, толькі так прыкідваецца, каб ксяндзы не знялі з пасады. Чэсць!

— А мы любім жыць у Польшчы і любім кахаць Лукашэнку ў Беларусі. Чэсць!

— Чэсць!

— Чэсць!

Сцяпан Абух

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Можа і мая віна ў гэтым ёсць. Сама не ведаю. Нарадзіла я двух сынкоў. Амаль адна іх выхоўвала, бо муж працаваў на адказнай пасадзе і ніколі яго не было дома. Дзеці і я — гэта было адно цэлае. Аднак жа сыны па характару былі розныя.

Малодшаму дык, здаецца, бацькі бышцам і не былі патрэбныя, а старэйшы быў, як прылепка, такі ўжо каханы, такі каханы. Пакуль быў малы, заўсёды хадзіў са мною за пакупкамі, да суседак, бралі мы яго з сабою і ў госці, калі ён быў яшчэ адзін. Зайду, бывала, да суседкі, стаю, размаўляю, а ён у маю спадніцу ручкаю, быццам бы кляшчамі, учэпіцца і так увесь час стаіць побач са мной.

Старэйшы сын не мог (калі быў малы), заснуць адзін. Кожны дзень я мусіла яго „прыспаць", інакш — бяда. Прытуліцца да мяне, выцалуе, і тады ўжо усё ў парадку. Калі ён крыху падрос і мы выходзілі з мужам кудысьці вечарам, хлопец чакаў мяне нават і да дванаццатай гадзіны. Я глядзела на яго з вялікім замілаваннем, што ён так кахае сваю маму.

Гады ішлі, а мой старэйшы сын зусім не цікавіўся дзяўчатамі. Усе яго равеснікі ўжо даўно „хадзілі" з сяброўкамі, а ў яго яшчэ ніколі не было нікога. Я вельмі дзівілася, бо, ты ж разумееш, маці свайго сына ведае: магу з поўнай адказнасцю сцвердзіць, што мужчынскіх „валёраў" яму не бракавала. У чым жа справа? І я пайшла да псіхолага.

Усё я расказала, як было. Шчыра і не саромеючыся. Думала я, што псіхолаг мяне падтрымае, уцешыцца, што маю такога сына, які так кахае маці. Мо яшчэ пазайздросціць мне...

А лекар мяне злаяў. Кажа, вы, здаецца, разумная кабета, а вось дзіціцы не дапільнавалі. Няўжо, кажа, вам не прыйшло ў галаву, што залішняе прымільванне хлопца да маці можа выклікаць скрыўленне яго псіхікі...

Я глядзела на псіхолага нічога не разумеючымі вачыма. Як ён можа гаварыць такое! Сын павінен трымацца сям'і, а не шукаць дзяўчыну. Яму ж яшчэ толькі дваццаць пяць. Яшчэ з дзесяць гадоў можа хадзіць кавалерам. Дзе яму лепш будзе, як не ў маці...

Псіхолаг тады параіў мне, каб занадта я не цешылася, бо і не было чаго. Можа быць так, што ваш сын ніколі не будзе паўнацэнным мужчынам. У мяне ў сярэдзіне ўсё замерла. Патрэбнае яму доўгае лячэнне, пастаянны кантакт з тэрапеўтамі.

Божачкі, як мне стала страшна. Гэта ж падумаць: мой сын хворы! Такі хлопец.

Сэрцайка, скажы мне, калі ласка, бо я нічога тут не разумею, дык значыцца, што калі сын кахае маці, дык гэта кепска?!. Гэта ж натуральная з'ява, я ж нарадзіла яго, выкарміла ўласнымі грудзьмі.

Рэня

Праўда, Рэня, мо ты яго і выкарміла, але забылася адняць ад цыцкі. А цяпер — клопат. Ён іншай кабеты, апрача цябе, і не ўяўляе. Ён так прывязаўся да цябе, што бадай не зможа пакахаць іншую, колькі б лекар ці псіхолаг яму не тлумачыў.

Каханне сыноў да маці як жанчыны вядома ад старажытных часоў. Грэх гэта вялікі. Такое каханне ідзе супроць натуры, бо натура адкідае дзяцей, якія народжаны блізкімі кроўнымі сваякамі. Вядома, я іду за думкай таго псіхолага. Але звярні і сама ўвагу, як шмат хворых, недаразвітых дзяцей паяўляецца ў арыстакратычных кругах, дзе часта жэняцца сваякі.

Такія выпадкі, які здарыўся з вамі, сустракаюцца даволі часта. Маці галубіць сына, кладзецца каля яго, каб прыспаць, гладзіць яго рукою тут і там, а пасля шкадуе таго, што нарабіла. Але ўжо позна.

Трымайся гэтага псіхолага і перагледзь свае паводзіны.

Сэрцайка